# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1579) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 17 ЖНІЎНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.



На сцэне — „Бонда".

Карэспандэнцыя з Мінска

## РОК-КЛУБ „НЯМІГА" ЗАЯЎКА НА ЖЫЦЦЁ

Не дзіва, што адчуванне аптымізму прыходзіць менавіта тады, калі ідэі, якія лунаюць у паветры, набываюць сваё рэчаіснае ўвасабленне. У сёлетнія Першамайскія святы такая радасная падзея адбылася і для маладых аматараў музыкі ў Савецкай Беларусі: 30 красавіка — 1 мая пад эгідай Маладзёжнага цэнтра пры ЦК ЛКСМБ у Палацы культуры чыгуначнікаў адбылося афіцыйнае адкрыццё рок-клуба „Няміга".

Што датычыць самой ідэі стварэння рок-клуба ў беларускай сталіцы, то яна сапраўды з'явілася даўно і выкліканая была неабходнасцю арганізаванае самадзейнай музычнай творчасці моладзі, выхавання ў маладых музыкантаў гэтага папулярнага кірунку добрых густаў, свядомае творчае пазіцыі.

Дагэтуль клубныя групы ўдзельнічалі ў музычным аздабленні свята аўтарскае песні „Давайце ўсклікаць". запісваліся

(Працяг на стар. 2)

## МІХАЛОЎСКІ СКР

Жніво — найважнейшы час у сельскай гаспадарцы. Сабраць збожжа без затрат, даставіць яго ў дзяржаўныя элеватары — галоўная задача ў гэтым часе для кааператываў сельскагаспадарчых гурткоў (СКР). Каб з ёю справіцца, неабходна было належна падрыхтавацца, салідна папрацаваць кожнаму эсказраўцу, каб сельскагаспадарчая тэхніка служыла надзейна, без перабояў.

Міхалоўскі СКР здаў добра экзамен у гэтай вельмі важнай кампаніі. 13 камбайнаў, 24 снопавязалкі, патрэбная колькасць грузавікоў і трактараў спачатку адправілася ў ваколіцы Юшкавага Груда, на слабейшыя, лягчэйшыя землі, дзе збожжа найхутчэй даспела. Праўда, жніво там было беспраблемнае, амаль што без перашкод. Пагода спрыяла, нівы не былі паваленыя, нявылегшыя, але, на жаль, не буйныя, значна слабейшыя, як у мінулым годзе. Там нідзе плён не перавысіў 22 цэнтнераў з аднаго гектара, а былі і такія палеткі, з якіх і па 10 цэнтнераў не намалочвалася. Нізкі ўраджай не перасільваў ні камбайнаў, ні снопавязалак. Ад камбайнаў збожжа СКРаўскія грузавікі і трактары з прычэпамі адразу адвозілі ў Беластоцкае збожжавае прадпрыемства (ПЗЗ). З саломай таксама адразу рабілі парадак. Яна прасавалася (цюкавалася) у „балёты" — аўсяная на пашу, жытняя на падсцілку. Плён збожжа быў значна вышэйшы ў ваколіцах Казімерова, на больш ураджайных землях і адначасова цяжэйшых. Там пазней пачалося жніво і намалочвалі па 28 і больш цэнтнераў збожжа з аднаго гектара.

І сяляне, і працаўнікі СКР у жніво працавалі многа, працавалі цяжка, з пачуццём адказнасці. І то ўсе: і камбайнёры, і трактарысты, і механікі, і кіраўнічыя працаўнікі СКРу. Хутка ліквідавалі аварыі машын, не дапускалі да іх прастояў, адчувалася належная арганізацыя і дысцыплінаванасць у працы.

Сяляне былі задаволены з працы СКРу ў жніво. Гэтае задавальненне пабольшана тым, што Міхалоўскі СКР патрабуе ніжэйшую аплату ў параўнанні з іншымі, напрыклад, з СКРам у Пасвентным у Беластоцкім ваяводстве. За адну гадзіну жніва камбайнам „Бізон" у Міхалове плоцяць 5.000 зл., у Пасвентным 5500 зл., за снопавязалку ў Міхалове — 1600 зл., у Пасвентным — 1900 зл., за касілку адпаведна — 1500 зл. і 1300 зл., за рассяванне вапны — 1250 зл. і 1400 зл., і таксама за іншыя паслугі.

Рада СКРу ў Міхалове намагаецца, каб цэны за паслугі не былі завышаныя, бо і так яны не малыя.

Ваяводскі саюз гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый у сваім пісьме ад 15 мая б.г. да Міхалоўскага СКРу звяртаў яму ўвагу на гэтыя ніжэйшыя аплаты, аднак рада СКРу ўтрымала ў моцы сваю пастанову і не павысіла цэнаў за паслугі. А гэтых паслуг тут выконваецца шмат, у тым ліку і спецыялістычных, такіх як хімічная апрацоўка пасеваў супраць пустазелля і шкодных насякомых, сіласаванне, параванне бульбы і іншыя.

Міхалоўскі СКР мае сваё рамонтна-вытворчае прадпрыемства, спецыялісты якога выконваюць шмат нетыповых работ, уключна з кавальскімі, вулканізацыйнымі, мантажам рухавікоў і г.д. Пасляхова працуюць 5 пунктаў паслуг у паасобных вёсках. Напрыклад, у Багнюках такі пункт вырабляе чаранкі да рыдлёвак і іншыя драўляныя вырабы і з гэтага ёсць значны даход.

СКР пашырыў сваю кааперацыю. Ад некаторага часу выконвае ён у сваім прадпрыемстве два віды дэталяў для Варшаўскага прадпрыемства імя Варынскага. У бягучым годзе плануецца там выпрадукаваць гэтых дэталяў на 15 мільёнаў злотых. Добра наладжана супрацоўніцтва з раённым дарожным аддзелам пры пабудове і рамонце дарог. І гэта таксама СКРу аплочваецца.

Апрача таго СКР шмат увагі прысвячае рамонтам палявых

(Працяг на стар. 5)

## СВЯТА Ў ГАРАДКУ

Напярэдадні свята Адраджэння Польшчы адбыўся ў Гарадку ўрачысты мітынг жыхароў Гарадоцкай гміны. Фэстын праходзіў у „зялёнай святліцы" ва ўрочышчы Борык.

Прыбыўшых на ўрачыстасць гасцей з Бераставіцкага раёна Беларускай ССР, членаў грамадскіх арганізацый і дзяцей, жанчын, моладзь і сялян прывітала Тамара Бурачэўская. якая вяла мітынг. Ва ўрачыстасці ўдзельнічаў прадстаўнік ВК ПАРП, намеснік кіраўніка раённага асяродка партыйнай працы Аляксандр Бура, І сакратар ГК ПАРП Юрый Цыванюк, старшыня ГРН у Гарадку Юрый Кандрусік, старшыня Гміннай рады ПРОН Юрый Матысюк, начальнік гміны Яўген Паплаўскі, старшыня гміннага гуртка ЗБоВіД Юрый Налівайка.

Пастановай Рады Дзяржавы ПНР адзначаны: Залатым Крыжам Заслугі — Ніна Сяверын, кіраўнік УСЦ; Сярэбраным Крыжам Заслугі — Рыгор Рагацэвіч, селянін з вёскі Залукі.

Медалём „За ўдзел у абароне народнай улады" адзначаны Аляксандр Лісоўскі з Валілаў і Іосіф Велічка з Гарадка, медалём „За ўдзел у абароннай вайне 1939 г." — Ян Буслоўскі і Юльян Лаўрыновіч са станцыі Валілы, Ян Высоцкі з Боркаў, Вікенцій Скрабчынскі з Нарэй-

(Працяг на стар. 4)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## НАША КУПАЛЛЕ

*„Да найбольш паэтычных перажыткаў даўняй веры прадзедаў нашых належыць Купалле. Гэта свята сонца, свята разросту жыцця, паўнаты сіл прыроды, каторая дайшоўшы ў гэтым часе свайго найвышэйшага развіцця, хутка пачне выдаваць плады, пачне радзіць. (...) Ноч на Купалле авеяна паэзіяй, дзівам, і спаць у гэту ноч лічыцца грэхам. Таму, як шырокая наша зямля, у гэту ночку людзі не спяць: адны ідуць спраўляць ігрышчы, другія грошы шукаць, трэція пільнуюць у нетры лясной, куды голас пеўня не далятае, агністай папаратняй кветкі. Як у мове ды песні, так і абычаях народу адбіваецца яго душа, яго культурны дабытак, і дзеля гэтага святкаванне Купалы нам, беларусам, трэба берагчы, і святкуючы, трымацца ўсіх устаноўленых вякамі абычаяў...“*

*„Наша Ніва“ з 1911 года.*

А што ў сапраўднасці здарылася ноччу з 28-29 чэрвеня сёлета над рэчкаю ў Супраслі?

Прыкладам мінулых, даўніх гадоў, беларускія студэнты, хаця ўпершыню ў сучаснай Польшчы, сабраліся, каб святкаваць Купалле. А між іншым з тае прычыны, што гэта была першая такая імпрэза студэнтаў, можна сказаць, дэбютанцкая, мела больш эмацыянальны, спантанны, чымсьці запланаваны ход. І вельмі добра, як потым выявілася. Зусім нечакана, гэты ж спантанны характар стаўся пачаткам натуральнага, без штучных накіраванняў, адраджэння аднаго з беларускіх гістарычных святаў. Але вернемся да самога мерапрыемства.

Вечарам 28 чэрвеня моладзь ды запрошаныя госці з'ехаліся ў Супрасль, карыстаючы з гасціннасці інжынера Ю. Латышонка.

Тут, на беразе рэчкі, расклалі аграмаднае вогнішча, пры якім спраўлялі ігрышчы, цэлую, бо аж да белага дня світанку, ноч. Найперш юнакі нашыя, спрадвечным звычаем, ачысціліся ад грахоў, выкупаўшыся ў рэчцы, а дзяўчаты ў міжчасе звівалі прыгожыя вянкі.

Сама ўрачыстасць пачалася песняй „Купалінка“, якую заспявалі хорам усе прысутныя. Я, у сваю чаргу, абапіраючыся на беларускай прэсе пачатку нашага стагоддзя, праінфармаваў грамаду ўдзельнікаў аб вытоках, карэннях і сённяшняй ролі гэтага свята для нас, беларусаў. Юры Латышонак расказаў пра святаянскую ноч у гістарычным сэрцы Беларусі — Віленшчыне ў даваенныя часы. Гэтаму рэгіёну Беларусі характэрна масавасць купальскіх вогнішчаў. У той час Купалле прыняло там нацыянальны беларускі характар. Цікава, надта ж інтрыгуюча, гаварыў Сакрат Яновіч, які закрануў справу ўздзеяння купальскага матыву на паўстанне многіх літаратурных твораў. З ягонай гутаркі даведаліся мы пра „дзівы“, якія дзеюцца ў гэту ноч, што дарэчы не асталося без уплыву на далейшы ход нашай імпрэзы. Шкада крыху, што не ўсе яшчэ поўнасцю паверылі ў магутнасць правой купальскай ночы.

І недзе пад поўнач нашы студэнткі пачалі пускаць на ваду вянкі. Кожны з іх меў у сярэдзіне запаленую свечку, што не толькі ўпрыгожвала рытуал, але перш за ўсё дапамагло хлопцам атаясаміць вянок з ад-

(Працяг на стар. 11)

## ПОШТА

### ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ З „ПРЫСУТНАСЦІ“!

*У артыкуле Ю. Ляшчынскага „З другога боку“ („Ніва“ ад 15.6. 86 г.) гаворыцца, што Аб'яднанне польскіх студэнтаў (ЗСП) „пачало паслядоўна выракацца свайго беларускага дзіцяці“ (гэта значыць: Рады культуры беларускіх студэнтаў), бо быццам бы ў ЗСП цяпер гэтак многа членаў, што беларусы сталі непатрэбнымі. Былі яны патрэбныя толькі ў гадах 1980-82, калі ЗСП патрабавала як найбольш членаў.*

*Але гэта не так. Беларусаў у ЗСП не так і многа было, каб яны ўплывалі на лічбовы стан арганізацыі ў тыя гады. А ЗСП цяпер не такая ўжо моцная, каб магла зракацца беларускіх студэнтаў. Справа ў чым іншым. Проста не ведаць вас, маладыя-збунтаваныя, у гэтым ЗСП! Не прымаеце вы ўдзелу ў пасяджэннях яго ўладаў, а калі хтонебудзь з Вас і бывае на іх, то не адзываецца і словам пра беларускія справы. Не ўмееце вы або не хочаце на гэтым форуме „гадзіць“ для дабра беларускае справы і толькі ў гэтым прычына такога стану рэчаў, які ёсць. Такая ацэнка дадзена Вам людзьмі з уладаў ЗСП.*

*Я не мушу вам прыпамінаць, што ўтварэнне Рады культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей дабіўся студэнт-украінец, які быў ва ўладах ЗСП. Але ён не саромеўся і не баяўся выступаць з гэтай справай на розных форумах. А вы што?*

*І перастаньце рабіць нейкія, сама менш непаважныя, намяканні на дзейнасць А. Барскага*

(Працяг на стар. 5)

## ХРОНІКА

### СВОЕАСАБЛІВАСЦІ РЭЙДУ „БАЦЬКАЎШЧЫНА-3“

**1. Спявалі на два галасы.**

Першую страфу песні „Дарма, Ясю, ходзіш“ супольным жаночым хорам спявалі нашым юнакам дзяўчаты, а апошнюю наадварот — хлопцы дзяўчатам. А вось яно:

*Дарма, Ясю, ходзіш,*
*дарма ножкі б'еш —*
*не пайду за цебе,*
*бо ты водку п'еш.*

На гэта хлопцы згодна адказвалі: „Досыць!“. Адначасна, дапаўняючы гэта адмысловым жэстам рук, затым спявалі апошнюю страфу:

*Шлюбуй, Кася, шлюбуй,*
*хай Бог памагае,*
*А мне, маладому,*
*вырасце другая!“*

Пасля таго, сумным, амаль адчайным, зніжаным голасам дзяўчаты заяўлялі: „Ну, так... Ну, так...“

**2. Медыцынская апека.**

Сярод удзельнікаў рэйду было ажж... трох лекараў: Эва Матысюк — студэнтка медыцыны ў Кіеве, Гося Мушынская — студэнтка медыцыны ў Беластоку ды славуты Багдан Сіманенка, які свае лекарскія веды абапірае на народнай мудрасці! І нічога дзіўнага, што, менавіта, пераважная большасць удзельнікаў рэйду звярталася да яго за парадай. На ўсе хваробы-болі наш „ардынатар“ меў адзін толькі рэцэпт, вельмі просты, але як жа ж дзейсны...

**3. „Хіт“ Бацькаўшчына 3.**

Песня „Цячэ вада ў ярок“ адназначна сталася нечаканым музычным „гваздом“ рэйду. Крыху меншай, але ўсё-такі аграмаднай папулярнасцю карысталіся: „Люблю я Гайнаўшчыну нашу“, „У гушчарах“ ды „Ой, пайду я, выйду“. Душою спявак эмацыянальна былі Міраслаў Пякарскі (папулярна званы „Пекарам“) ды Лёнік Тарасэвіч (ён узначальваў „рытмічную секцыю“).

**4. Каралеўствы і іхнія ўлады.**

Справай вядомай здаўна ўсім з'яўляецца факт паралельнага існавання двух „царстваў“: БГКТ — гэта адно царстве, а „Ніва“ — другое. Аднак ад нейкага часу існуе і трэцяе, мо не аж такое вялікае, не аж такое самастойнае, крыху васальнае, але ўсё ж — „царстве“. Гэтым трэцім „царствіем“ ёсць „Прысутнасць“ — папулярная марыянетка „Нівы“. Падчас рэйду „Бацькаўшчына-3“ наступіла, як жа ж нечаканая змена ўладара „Прысутнасці“. Пасля „добраахвотнай“ адмовы ад „каралеўскага“ трона Юркі Ляшчынскага на пасад верхаводны быў узведзены Мікола Ваўранюк. Ну так, маем двух Мікалаяў-цароў, значыць, адгэтуль паўсюдна запануе „Мікалаеўшчына“. Крый Пане Божа!..

**Юрка Ляшчынскі**

ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка

## Падзяка

Арганізатары і ўдзельнікі рэйда „Бацькаўшчына-3“ дзякуюць усім тым, хто дапамог арганізаваць ды правесці яго. У прыватнасці дзякуем: А. Іванюку, дырэктару, ды настаўнікам Гайнаўскага беларускага ліцэя за тое, між іншым, што яны не пабаяліся і не пасароміліся ўпусціць беларускіх студэнтаў у сваю школу; працаўнікам Нараўчанскага ГОКу за магчымасць карыстання з залы таго ж ГОКу на начлег; Слаўку Міткоўскаму ды Эве Матысюк за гасціну ў Луцэ; Раману Шыманюку і Юрку Баброўскаму за гасціну і начлег у Семяноўцы; беларускаму актыву ў Міхалове — Яўгену Паплаўскаму, Яўгену Азяблу і працаўнікам гастраноміі „Незабудка“; дырэктару Дома культуры імя К. Каліноўскага Т. Бурачэўскай, Юрку Налівайку ды моладзі з Гарадка за перапоўнены ветлівасцю і сардэчнасцю прыём; святарам у Новай Волі і Міхалове за паказанне царкваў; дакладчыкам; тэатру „Парнас“; старшыні варшаўскай РК СНБ П. Багроўскаму за дапамогу ў арганізацыі мерапрыемства ды ўсім тым людзям добрае волі, якія стварылі нам клімат сардэчнасці, дапамагалі па меры сваіх магчымасцей. За гэта вам усім шчырае беларускае дзякуй!



„Бацькаўшчына-3“ сярод палёў з каласістай збажыной каля Міхалова. Фота Л. Тарасэвіча

# Народнае святкаванне ў Чыжах

З самай раніцы ў нядзелю 20 ліпеня г.г. у Чыжах на Гайнаўшчыне адчуваўся святочны настрой. Каля мясцовага клуба ўпрыгожаная „зялёная святліца" чакала ўдзельнікаў беларускага фэстына (народнае святкаванне — здаецца мне, будзе лепшай назвай для бэгэкатоўскіх фэстынаў) у гонар 30-годдзя БГКТ і „Нівы".

„Свята Народнай Польшчы — гэта таксама і свята беларусаў, якія ад вякоў жывуць на гэтай зямлі", — сказаў у сваёй прамове старшыня ГП БГКТ др Аляксандр Баршчэўскі. Падкрэсліў ён вялікае заангажаванне беларускага насельніцтва ў змаганні за народную ўладу і яе ўмацаванне ў нашай краіне. А. Баршчэўскі прадставіў найбольш істотныя справы, звязаныя з жыццём беларусаў у Народнай Польшчы. Затым выступалі прадстаўнікі грамадска-палітычных улад Чыжоўскай гміны. Падчас урачыстасці многія жыхары гміны былі адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі.

У мастацкай частцы выступілі добра вядомыя беларускія калектывы з Дубін, Тынявіч і Рыбалаў. Распачалі любімыя многалюднай публікі — вакальна-інструментальны калектыў з Дубін на чале з Пятром Скепкам. На гэты раз Пятро прывёз яшчэ з сабой 6 дзяўчат — новы вакальны калектыў на нашай культурнай ніве, які ўжо паспяхова прымаў удзел у міжшкольным аглядзе „Беларуская песня-86". Калектыў гэты працуе пры Гмінным асяродку культуры ў Дубінах.

„Адведкі" „Тыневічанак" паказалі, што фальклорныя сцэнічныя пастаноўкі таксама вельмі падабаюцца людзям. Маючы на гэты раз магчымасць ляпей паглядзець „Адведкі", захапіла мяне мастацтва тыневіцкіх самадзейнікаў. Колькі ў іх народнай паэзіі, каларыту, аўтэнтычнага народнага камізму і самабытнасці беларускай! Аж цяжка паверыць, што абрадавая ацэнка, якая становіцца тэатральным спектаклем, апрацавана поўнасцю самімі выканаўцамі — людзьмі, якія наштодзень цяжка працуюць у сельскай гаспадарцы. Сведчыць гэта аб вялікіх здольнасцях, якія тояцца ў нашым вясковым народзе. Тое самае пацвердзілі і „Хлопцы-рыбалоўцы", якія завіталі на запрашэнне мясцовых жыхароў, хаця перад тым выступалі з канцэртам у сваёй вёсцы. Моцныя, мілагучныя галасы мужчын з Рыбалаў трапна перадавалі ўрачысты характар іхніх песень. Некаторыя з іх створаны самімі спевакамі, перш за ўсё Мікалаем Ігнацюком. Гэта чалавек з рамантычнай душой, ён — сапраўдны народны паэт.

Канцэрт беларускіх самадзейнікаў амаль тры гадзіны захапляў некалькі соцень гледачоў і закончыўся супольным адспяваннем „Люблю наш край". А ці ж можна яго не любіць, калі ў народзе песні льюцца і душа квітнее.

Народнае святкаванне ў Чыжах падрыхтаваў гмінны аддзел БГКТ у Чыжах на чале з маладымі энергічнымі людзьмі: Галінай Мартынюк — старшынёй аддзела і Юркам Якімюком — дырэктарам чыжоўскага ГОКу, за што належыцца ім заслужаная пахвала і падзяка.

**Ян Мордань**

## АРЛЯНЦЫ Ў НАРАЎЦЫ

З нагоды Свята Адраджэння 20 ліпеня на фэстыне ў Свінаросах пад Нараўкаю даў канцэрт самадзейны харавы калектыў з Орлі.

Нараўчане ўпершыню сустрэліся з гэтым хорам. Калектыў выступіў з народнымі і сучаснымі песнямі. Пад старымі пушчанскімі дубамі гучалі песні розных часоў — ад пушкінскага „Узніка" да сучасных лірычных твораў. Пераважалі сярод іх беларускія песні. У арлянскім хоры ў большасці жанчыны. Іх спевы стваралі цёплы настрой. З гэтым жаночым калектывам выступае вядомы на Бельшчыне саліст Мікалай Лапух. Ён дасканала выканаў некалькі песень. Яго магутны голас вельмі спадабаўся слухачам.

З арлянскім хорам працуе і акампаніруе яму прафесіянальны музыкант Юзэф Янушка. Брава для беларускага калектыву з Орлі!

**М. Варанецкі**

(Працяг са стар. 1)

## СВЯТА Ў ГАРАДКУ

каў, Мікалай Дзярманскі з вёскі Валілы. Ян Аўсейчык з Гарадка і Уладзіслаў Навойчык з Белявіч.

У выступленнях Тамары Бурачэўскай — дырэктара ГОКу ў Гарадку, Юркі Цыванюка і госця з Беларусі — сакратара Раённага камітэта КПСС Берастав іцкага раёна БССР Віктара Міхайлавіча Жарэцкага гучалі словы, якія найбольш хвалююць сучаснае, не толькі нашае, грамадства: абарона міру, брацкае супрацоўніцтва народаў, магчымасці прагрэсу, неабходнасць грамадскай творчай актыўнасці. Пра гэтыя справы гаварылася на XXVII з'ездзе КПСС і X з'ездзе ПАРП, на партыйных сходах і сярод беспартыйных. Ператворым планы і намеры ў актыўнае дзейнічанне! Наступіў гарачы момант: стаім на парозе XXI стагоддзя. Нашыя планы перспектыўныя. Ставім на інтэнсіўнае развіццё гаспадаркі, умацаванне дысцыпліны і парадку, і ставім на чалавека — актыўнасць працаўнікоў, моладзі, патрыятызм і інтэрнацыяналізм грамадства. Каб зразумець сённяшняе, трэба пазнаць яго крыніцы, правільна намячаць перспектыву будучыні. Сваю будучыню можам бачыць толькі ў мірным свеце мірных творчых, шчаслівых, дружных людзей.

Пасля афіцыйнай часткі пачалася мастацкая. Для гледачоў спяваў народны гарадскі ансамбль з Васількова.

Пачаліся танцы. Хаця распадаўся густы дождж, пад музыку танцавальнага вайсковага аркестра, а пасля калектыву з ГОК у Гарадку танцавалі яшчэ доўга ўначы. Трохі гралі таксама Лёнік Тарасэвіч і Міраслаў Пякарскі, якія ў той дзень са студэнтамі пры вогнішчы закончылі ў Гарадку рэйд „Бацькаўшчына-3".

Такія сустрэчы памагаюць верыць у сілу дружнай рукі і шчырага сэрца.

**Міра Лукша**

## Самі для сябе

Жыхары **Нараўскай** гміны ў мінулым годзе выканалі грамадскіх пачынаў на больш, чым пяць мільёнаў злотых.

У **Гарадзіску** пабудавалі святліцу. У адным пакоі арганізавалі так званы пункт дапаможнага продажу. Кошт інвестыцыі падлічылі на суму 980 тысяч злотых.

Крыху больш, чым у Гарадзіску, аб'ект на патрэбы культурнай дзейнасці пабудавалі жыхары вёскі **Кавэла**.

Жыхары вёскі **Грамотна** адрамантавалі лясную ўхабістую дарогу на адрэзку ад свайго сяла ў суседнюю вёску Рыбакі. Заслуга ў гэтым перш за ўсё іхняга маладога солтыса **Мікалая Паскробкі**.

У грамадскім пачыне жыхары **Градочна** пабудавалі пачакальню на „сваім" аўтобусным прыпынку ПКС, а сяляне з **Янава** — плот вакол мясцовай школы і школьнай пляцоўкі. **(ЯЦ)**

# Храм у Наройках

Да каштоўных храмавых аб'ектаў XIX стагоддзя на Беласточчыне неабходна залічыць царкву ў вёсцы Наройкі гм. Драгічын. Яна была збудавана ў 1866 годзе на месцы ранейшай драўлянай, якая памятала часы царкоўнай уніі ў XVI стагоддзі. Сама мясцовасць мае значна даўнейшую метрыку. Яе даўнішняя назва — Наройчыцы, Наровічы і належыць яна да паходзячых ад прозвішча чалавека Нарэйка і пераўтварылася ў родавую назву Наройкі. Даследчыкі Беласточчыны згодна сцвярджаюць, што „назва Наройкі (Нарэйкі) выступала даўней і выступае цяпер на Літве і Беларусі".

Археалагічныя пошукі ў Наройках і суседніх вёсках Красевічы-Чарапы, Мілкавічы-Мацькі, Сківы Вялікія, Камянка адкрылі курганы, якія належаць да X-XIII стагоддзяў. Пахаванні ж, якія знаходзяцца на гэтых могільніках, маюць розныя формы і гэта сведчыць пра неаднародную культуру пражываючага тут насельніцтва.

Мінулае Падляшша ў сярэднявеччы ў большасці было звязана з панаваннем рускіх князёў, часткова мазавецкіх, а пасля перамогі Вялікага княства Літоўскага над Галіцка-Валынскай Руссю ўладарамі гэтай тэрыторыі былі вялікія князі літоўскія. Аднак у канцы XV і на пачатку XVI ст.ст. усё часцей на Падляшшы сустракаюцца шляхецкія роды мазавецкага паходжання. Паводле даследаванняў пра магнацкі род Сапегаў, тэрыторыя Наройкаў апынулася ў іхнім уладанні, у іх чытаем: „у 1508 г. Іван Сапега пасля раскрыцця здрады князя Міхала Глінскага атрымаў са шматлікіх ягоных маёмасцей, якія асталіся пасля пераходу Глінскага ў Маскву, маёнткі таго ж на Падляшшы — Лісава, Наройты (Наройкі), Брыкі, Кнарыды і Беражніцу. У лістападзе 1512 г. кароль пацвярджае замену маёмасцяў Івашкі Сапегі — Лісава, Нарэвіч (Наройкаў) і Брыкаў з Леанардам Касінскім, які ўступае ў тым жа Драгічынскім павеце Дубна..."

Адсутнасць якога-колечы ўпамінання ў тым часе пра царкву ў Наройках не дазваляе вызначыць час паўстання парафіі. Самае ранняе ўпамінанне пра яе — гэта візіт з 1726 года, у якім чытаем:

„Cerkiew Naroyska pod tytułem stych Kozmasa y Damyana w colacyi Ich Mościów Panów Skiwskich, przy którey zostaje ad praesens W Ociec Stefan Kozłowski prezbyter Naroyski. Cerkiew sama drewniana mała y zbyt stara, polem ogrodzona. Dach na niey u połap zgniły na cmentarzu krzyż stary. Dzwonicy ani babinca nie masz...".

Не лепш было і з зямельным надзелам:

„funduszu nie masz żadnego. Była włoczka gruntu iedna bez dokumentu słownie nadana a która Ichmość Pan Aleksander Skiwski puszczając te dobra w zastaw Imci Panu Maksimilianowi Ossolińskiemu



Царква Кузьмы і Дзямяна ў Наройках. Графіка У. Петрука. 1986 г.

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

## „ЗАПАРОЖНІКІ"

Цікавая абраднасць звязана з прыездам маладых ад шлюбу ў дом бацькоў маладой.

Калі вазы, напоўненыя вясельнікамі, уязджалі на панадворак, разлягалася песня, у якой госці заклікалі гаспадароў вітаць маладую пару. Прыводзем тэксты такіх песень. Першая з іх паходзіць з вёскі Старая Луплянка, а другая з Ляшукоў.

Матулько, татулько,
Чаму не выходзіш хутко?
Чаму мяне не вітаеш?
Чаму мяне не пытаеш?
З кім я шлюб брала?
Каму верна прысягала?
Чы з места з мяшчаніном?
Чы з сяла з селяніном?

* * *

Чаму маці не выходзіш?
Чаму дзежку не выносіш?
Чаму нас не вітаеш?
Чаму нас не пытаеш?
Дзе мы шлюб бралі?
І як назад папалі?

Як першая, так і другая песня складаюцца амаль выключна з пытальных сказаў. Аднак у гэтых пытаннях змяшчаюцца як быццам і пажаданні, а нават і патрабаванні. І гэта не выпадкова. Справа ў тым, што ў многіх вясельных тэкстах як быццам спалучаецца ў адну цэласць малітвеннасць і патрабавальнасць, лагоднасць і катэгарычнасць.

Прыведзеная песня з Ляшукоў характэрна і ў другім аспекце. У яе змесце выступае заклік да вынашвання дзежкі. Праўдападобна звязаны ён з тымі адлеглымі часамі, калі маладую саджалі на дзяжу не толькі перад выездам да шлюбу, але і пасля прыезду ад шлюбу. Найстарэйшыя інфарматары падцвярджаюць выступленне такога звычаю. Аднак ужо на пачатку ХХ стагоддзя, звычай гэты пачаў занікаць. Затое ўтрымліваўся яшчэ на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў у рытуале, звязаным з прыездам маладой у дом яе мужа. Аднак з цягам часу занялаў і ў гэтым рытуале, пакідаючы свае сляды выключна ў песні.

З раёна Гайнаўкі паходзяць варыянты прывітальнай песні, змест якой напоўнены пахвальнай інтанацыяй, накіраванай у адрас маладых:

Одкрывай, маті, оконце,
Ідэ дочка, як сонце.
Одкрывай, маті, другое,
Ідут діеті обое.

Як бачым, у тэксце змест слова „едзе" ці „едуць" слова „ідэ" Праўдападобна гэта не выпадкова. Ёсць падставы думаць, што такія тэксты спяваліся ў тых вёсках, дзе былі на месцы цэрквы і маладыя не ездзілі да шлюбу, а толькі хадзілі.

Варта адзначыць, што ў многіх вёсках да рытуалу „павітання" маладых уключаліся „запарожнікі". Спяваныя імі песні вылучаліся сваім непаўторным настроем. Вельмі часта яны пераступалі мяжу гумарыстычнасці, заглыбляючыся ў вульгарызм. Прыкладам можа быць песня, папулярная ў Залуках і Падзалуках, а таксама ў іншых мясцовасцях Беласточчыны.

Весяліся ....,
Вязуць маладую,
Станавіся рогам,
Чакай за порогам.

Песні такога тыпу, нягледзячы на сваю экстрэмальнасць, не выклікалі ні здзіўлення, ні тым больш абурэння. Трактаваліся яны як нармальныя складовыя часткі вясельнага рытуалу, у якім кожная смеласць, знаходлівасць і арыгінальнасць трактаваліся як нешта натуральнае і пажаданае. Вышэй прыведзеную думку вельмі добра ілюструе выказванне жыхаркі вёскі Мядзведзі, Касі Мядзведзь:

„То воно было так: калі ужэ прыеджают молодые ад шлюбу, то співают і тые на вазах і тые, што забраліся на падворку. У нас іх называлі запорожнікамі, бо ваны цэлы час стырчалі пад окнамі або ў сенях за порогом, калі васельнікі ужэ за сталамі сідзелі. То тады, калі васельнікі співалі розны такіе песні чалавечы, то тые запорожнікі усё раўлі песні, ну як бы ні тут кажучы свінскі. Ну, але вано было відомо, што ім гэто можно было робіці. І ніхто да іх за гэто: ні гаспадары, ні маладые, ні госці злосці ні мелі. Вано відомо, што калі ўжэ ваны співалі вэльмі па-свінску, то маладая, бывало, чырванела ад устыду. Ну, але і гэто было патрэбно. А нават, каб хтось і зазлаваў, то барані Божэ ні трэбо гэтаго паказваць, бо тады запорожнікі як, не тут гаворачы сабакі, ешчэ горш брахалі б".

**А. Баршчэўскі**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Яшчэ калі я была дзяўчынай, адзін старэйшы чалавек сказаў мне: „Ты, дзяўчына, пазнаеш жыццё!" І вось сёння я, 30-гадовая жанчына, магу сцвердзіць, што ён меў тады рацыю. Я шмат разоў думала над тым, чаму ён так мне сказаў і толькі сёння я ўсё гэта зразумела.

Ужо восем год, як я выйшла замуж. Ёсць у мяне нават двое дзяцей. Але, на жаль, у сямейным жыцці спакою я не маю. Справа ў тым, што мой муж вельмі зайздросны. У якую кампанію не прыйдзем, куды не паедзем, заўсёды мяне чакаюць сцэны зайздрасці з боку майго мужа. Даходзіць да такой ступені, што ў кампаніі мне нельга ўсміхнуцца да нікога, што як толькі мяне хтосьці запросіць танцаваць, то зноў скандал, а запрашаюць жа вельмі часта... І ў даны момант мне ўжо абрыдла не толькі кампанія, але нават і сямейнае жыццё. Бо муж вельмі незадаволены нават тады, калі я бываю мілая ў адносінах да яго брата. І так, будучы з мужам, я адчуваю ў сабе нейкую пустку, паколькі ведаю, што на балі, напрыклад, мушу танцаваць цэлы вечар толькі з ім, да нікога мне нельга ўсміхнуцца, з нікім не гаварыць... Так было б найлепш, так бы ён хацеў, але ці хачу гэтага я — яго не цікавіць!

І вось цяпер я думаю: чаму ён такі? І ці варта наогул з ім жыць? Ён жа мяне хутка даршты замучыць. Нават кожную найцікавейшую імпрэзу патрапіць ператварыць у пекла. А я ж яго кахаю і нават не ў галаве мне, каб здрадзіць яму. Што ты раіш, Сэрцайка?

**Марта**

Марта! Відаць з цябе жанчына прыгожая, калі муж такі зайздросны. Была б ты брыдкая, то і не глянуў бы ніхто, і не жартаваў бы з табою, і танцаваць не запрашаў бы. Ну, што ж, мужам найчасцей падабаецца тое, што падабаецца і іншым.

Думаю, аднак, што твой муж крыху празмерна зайздросны. Магу цябе толькі пацешыць, што гэтыя рысы характару з часам занікаюць. Міне яшчэ дзесятак годзікаў — ты пастарэеш, растаўсцееш, твар паморшчыцца, — і муж твой будзе вельмі цешыцца, калі нехта запросіць цябе да танца або ветліва ўсміхнецца да цябе.

**Сэрцайка**

# БЕЛЬСКІЯ ШЛЮБЫ

У мінулым годзе ў бельскім аддзеле актаў грамадзянскага стану зарэгістравана 269 шлюбаў. Узрост маладых — ад 20-ці да 25-ці гадоў. За той жа час у горадзе і на тэрыторыі гміны памерла 433 чалавекі, а нарадзілася 1042. Найбольш частыя імёны малых — Пятро, Павел, Міхал, Іанна. На выбар імёнаў вялікі ўплыў мае тэлевізія. Напрыклад, калі паказвалі шматсерыйны кінафільм „Ізаўра", паявілася гэтае імя і на хрэсьбінах.

**Андрэй Гаўрылюк**

# СОННІК

33

**Дарожны** знак з указаннем кірунку — не адкідай добрай парады.
**Дастатак** чаго-небудзь — абяцаючая, добрая будучыня.
**Дастаўка** — сварка, гнеў.
**Дах** — вясёлае жыццё; упасці з яго — прыкрае здарэнне; каты на даху — сварка; самому стаяць на даху — дайсці да ўлады; пакрыць дах — паклёпніцтва, абмова.
**Дахоўка** — доўгае жыццё з каханым чалавекам.
**Дбаць** пра што-небудзь — павага і пашана; пра цябе нехта дбае — сцеражыся фальшывага сябры.
**Двор** сялянскі — спадчына; панскі — клопаты, непрыемнасці.
**Дзверы** адчыненыя — даход; замкнутыя — прыкрае наведанне; скрыпучыя — непрыемны візіт.
**Дзень** — пазбяжыш дрэнных вынікаў.
**Дзеці** — нястачы; прыгожыя і вясёлыя — радасць і здароўе; малыя — клопаты.
**Дзік** — удача; бачыць уцякаючага — пазбегнеш небяспекі; застрэліць — небяспечная прыгода; злавіць — радасць.
**Дзікі** чалавек — небяспека.
**Дзікія** жывёлы — сцеражыся хітрасці, засады.
**Дзірка** ў вопратцы — даўгі; у зямлі — трапіш у благую кампанію; дзіркі ў сцяне — абяцаючая будучыня: выбіваць — судовая справа.
**Дзіця** сваё — шчасце; з нянькай — добрыя часы.
**Дзічына** — надта ж прывольнае жыццё і паводзіны; забіваць яе — непрыемны выпадак.
**Дзюба** — шчасце ў гульні.
**Дзядзька** — вялікі прыбытак, карысць; дзядзіна — падманлівыя казкі.
**Дзядок** — задавальненне з працы; да лускання арэхаў — разумовая праца.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Вісарыён Гарбук

# НУ І НЯХАЙ

Таня з сяброўкамі гуляла на лузе. Алік з хлопчыкамі папластунску падкраўся з-за дрэў і атакаваў іх. Ён адразу пагнаўся за Таняй. Яна так напалохалася, што кінулася да канавы і пераскочыла яе. Нават Алік не рызыкнуў скочыць услед. Толькі здзіўлена свіснуў і сказаў:

— Ура! Танька на першым месцы па скачках у даўжыню.

А тая са здзіўленнем пазірала на Аліка, на хлопчыкаў і дзяўчынак, што засталіся там, дзе і яна толькі што была. І здалося Тані, нібы яна пераляцела на другую планету. І тут, далёка адышоўшыся ад берага і разагнаўшыся, да яе пераскочыў Алік.

„Няўжо і я так? Не. Я не адбегала, — прыгадвала Таня. — Адразу кінулася..."

І не кранулася з месца, калі падыходзіў Алік, толькі павярнулася да яго бокам.

— Гайда ў той лясок! — прапанаваў хлопчык і паказаў на малады бярэзнік непадалёк ад іх.

— Мне і тут добра, — адказала Таня.

— Там суніцы паспелі.

— Не хачу суніц.

— Зловім вужа. Вось такой даўжыні! — Алік раскінуў рукі ў бакі.

— І вужа не хачу.

— Ты будзеш скакаць назад? — памаўчаўшы, спытаў ён.

Таня асцярожна зірнула на Аліка.

„Вылінялыя шорты, запыленыя ногі. Чорны ад загару, як і ўсе хлопчыкі. І чаго я збаялася? — Яна ўбачыла яго вочы. — Якія доўгія і выгнутыя вейкі! Нібы ў дзяўчынкі..."

— Захачу — і скокну! — задзірліва сказала яна.

— Хадзем у Баравое, у магазін, — прапанаваў Алік. — Мне трэба купіць падручнікі.

„Я ж цяпер не пераскочу назад! А там па дарозе мост!. Здагадаўся?! Які ён... — у Тані і слова адразу не знайшлося. — Які ён... добры! Няўжо?!" Схаваўшы радасць, яна згодна кіўнула галавой і моўчкі пайшла ўздоўж канавы.

— Та-а-ня, ты куды-ы? — паклікалі з таго боку сяброўкі.

— У Баравое, — адказаў за яе Алік.

У полі пры дарозе стаяла старая груша-дзічка.

— Давай узлезем, — прапанаваў Алік.

— Не хачу, — адмовілася Таня.

— Адтуль усё ўбачыш! Нават свой дом! Не верыш?.. Ды ты не бойся, я падтрымаю!

Таня зайздросціла ўсім, хто смела лазіў на дрэвы, садзіўся на галіну, нібы на звычайнае крэсла. Толькі яна, няшчасная баязлівка, заўсёды заставалася на зямлі, суцяшаючы сябе тым, што ніколі не ўпадзе з вышыні і на ўсё жыццё, як палохала яе маці, не зляжа ў ложак.



Марыя Томчук з Дубяжына заваявала трэцяе месца на ваяводскай алімпіядзе рускай мовы. Па беларускай мове ў яе таксама заўсёды пяцёркі. Фота Я. Чэрнякевіч.

— Дзяўчаткі не лазяць па дрэвах. Хіба толькі... — Таня хацела сказаць па-мамінаму: шаляніцы, але сказала: — хіба самыя адважныя.

Тады Алік сам хуценька ўскарабкаўся на дзічку.

— А я бачу твой дом! З коміна ідзе дым, — крыкнуў ён.

— Хлусіш! — засмяялася Таня. — Няма ніякага дыму. І нашага пасёлка адсюль не відаць.

Алік ускарабкаўся на самую высокую галіну і заспяваў:

Огромное небо, огромное небо,
Огромное небо — одно
на двоих.

„Які ў яго прыгожы голас!" — здзівілася дзяўчынка.

* * *

Дома Таня пахвалілася:

— А я на нашым лузе цераз канаву скокнула. Як на крылах усё роўна пераляцела!

— Не выдумляй абы-чаго! — супыніла яе маці.

— Праўда-праўда! Алік пагнаўся з мной. Я перапалохалася. Скок — і на тым беразе!

— Гэты свавольнік не дае табе праходу!.. Заўтра ж пайду да яго бацькоў!

— І зусім ён не свавольнік. Ён такі, як усе хлопчыкі, — запярэчыла Таня. — Толькі вельмі смелы. Я разам з ім у Баравое хадзіла. Ён хацеў, каб я на дзічку ўзлезла... І чаму я так яго баялася, сама не ведаю?

— Знайшла кім захапляцца! — абурылася маці. — Ён цябе навучыць!

— Ну і няхай!

— Што гэта з табою здарылася, не згаварыцца! — здзівілася маці.

— Ну і няхай! — заўпарцілася Таня.

„Маці праўду кажа, — думала Таня. — Мне сапраўды хочацца дзіўнага: зноў пераскочыць канаву. Няхай Алік зноў мяне напалохае".

Але нібы знарок цэлы тыдзень ён не трапляўся Тані на вочы. А Таня ўсё чакала яго. Яна б цяпер з ім пайшла і ў лес вужоў лавіць, і на дзічку б палезла. Таня паўтарала песню, якую ён спяваў на дзічцы, і ёй здавалася, што героі песні — яны з Алікам. Гэта яны на самалёце ўдваіх. Гэта ў іх сапсаваўся матор, а пад імі — горад... Таня засынала і прачыналася з гэтай песняй і з адчуваннем узрушанай радасці.

І вось нарэшце яна зноў сустрэла Аліка. Ён вучыў ездзіць на трохколавым веласіпедзе маленькую дзяўчынку ў ружовай сукенцы.

— Ты па чарзе націскай нагамі на педалі, — ласкава казаў

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Зоя Лабаноўская

# ЛЯНІВЫ ЗАЙЧЫК

### КАЗКА

Зайчыха рыхтавалася да зімы — хату будавала. Дапамагалі ёй зайчаняты: дошкі цягалі, мох дралі.

— А ты чаму схаваўся? — спытала зайчыха самага маленькага зайчыка.

— Я хачу гуляць!

— З кім жа ты будзеш гуляць? Усе працуюць.

— Знайду з кім! — адказаў зайчык і пабег з дому.

Неўзабаве ён убачыў вавёрку, якая трымала ў лапках грыбок.

— Пагуляй са мной! — папрасіў зайчык.

— Няма ў мяне часу гуляць, — пакрыўдзілася вавёрка. — Трэба грыбы на зіму сушыць.

Пабег зайчык далей.

Недалёка ад рэчкі, у асінніку, сустрэў бабра з бабранятамі.

— Што вы тут робіце? — спытаў зайчык.

— Кару, асінавыя галінкі нарыхтоўваем. Каб зімой не галадаць.

— А мне сумна! Давайце пагуляем трошкі.

— Не мяшай працаваць! — засердаваў бабёр. — У нашай сям'і няма гультаёў.

Пабег зайчык далей.

Бачыць, дзяцел сядзіць на сухастоіне — дупло выдзёўбвае.

— Добрая птушка, пагуляй са мной! — папрасіў зайчык.

— Не магу, шарачок! Палац яшчэ не гатовы, а зіма не за гарамі.

Доўга бегаў зайчык па лесе. Стаміўся, прагаладаўся. Пад самы вечар зваліўся ў воўчую яму. А воўк тут як тут, зубамі шчоўкае:

— Я даўно цябе, гультая, шукаю!

Прапаў бы зайчык, каб не паляўнічыя. Забрахалі недалёка сабакі, воўк спалохаўся і — наўцёкі.

Ледзьве жывы вярнуўся зайчык дамоў. Усю ноч спаў як забіты. А раніцай першы выбег на работу.

— Пабудуем хату, — сказаў ён зайчанятам, — тады і гуляць будзем!

Пятро Сушко

### ЧМЯЛЁВА ГУШКАЛКА

Над палянкаю лятаючы,
Верасовы мёд збіраючы,
Прытаміўся
Чмель-бухмацік,
Захацеў
Крыху паспаць ён.
Апусціўся
Чмель на кветку,
Задрамаў там неўпрыкметку.
Ну, а кветачка лагодная
Ціха
Чмеліка пагойдвае.
Сняцца сны яму
Чароўныя,
Сняцца соты,
Мёду поўныя.



## ЮНІСЕФ

У 1945 годзе, адразу пасля заканчэння II сусветнай вайны, народы свету стварылі Арганізацыю Аб'яднаных Нацый.

А ў 1946 годзе па прапанове Савецкага Саюза і сацыялістычных краін быў створаны Дзіцячы фонд ААН — для аказання дапамогі дзецям еўрапейскіх краін, якія былі ахвярамі гітлераўскага фашызму. Многія жыхары Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Югаславіі і іншых краін з удзячнасцю ўспамінаюць аб дапамозе ЮНІСЕФ. Дзіцячы фонд дапамог тады выжыць сотням тысяч дзяўчатак і хлапчукоў Еўропы, даваў ім прадукты, адзежу, абутак і іншыя неабходныя рэчы.

Паступова Еўропа адбудоўвалася, станавілася на ногі. Усё менш было еўрапейскіх дзяцей, якія патрабавалі дапамогі. У канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў ЮНІСЕФ ужо пачаў дапамагаць дзецям з іншых раёнаў свету — Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі.

Вядома, ЮНІСЕФ не можа вырашыць усіх праблем сучаснага свету. Але дапамога, якую аказвае ЮНІСЕФ, вельмі патрэбна. Як падае статыстыка, у развіваючыхся краінах Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі і сёння яшчэ кожны дзень ад голаду, нэндзы і хвароб памірае 40 тысяч дзяцей!

Барацьба з высокай паміральнасцю дзяцей — гэта адна з галоўных задач ЮНІСЕФ. Толькі ў 1985 годзе, дзякуючы прышчэпкам супраць такіх хвароб, як одра, дыфтэрыт, сухоты і шмат іншых, Дзіцячаму фонду ўдалося выратаваць ад смерці 800 тысяч дзяцей.

Сацыялістычныя краіны вельмі актыўныя дзеячы ў ЮНІСЕФе. Яны аказваюць усебаковую дапамогу ўсім патрабуючым.

У гэтым годзе Дзіцячаму фонду Арганізацыі Аб'яднаных Нацый спаўняецца 40 год.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 344111, г. Ростов-на Дону, пр. 40-летия Победы, 75/2, кв. 13. Щугорева Валентина. Скончыла шосты клас.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28а, кв. 90. Панюшкиной Светлане. Скончыла шосты клас.

* * *

СССР, 346717, Ростовская обл., Аксайский район, п. Аглос, Лашовой Наташе. Скончыла пяты клас.

* * *

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Островского, 13. Васильченко Ирине. Перайшла ў сёмы клас.

* * *

СССР, 347340, Ростовская обл., г. Волгодонск, ул. 50-летия СССР, 25, кв. 122. Сорокобаткиной Надежде. 16 год.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво, Колосов Сергей. Скончыў сёмы клас.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты-3, ул. Парковая, 50а, кв. 93. Сухоруковой Ольге. 14 год.

* * *

СССР, 344074, г. Ростов-на-Дону, ул. Абаканская, 20, кв. 14. Борисовой Лене. Скончыла сёмы клас.

* * *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, 75/1, кв. 22. Чередниченко Любе. Перайшла ў сёмы клас.

* * *

СССР, 346916, Ростовская обл. г. Новошахтинск, ул. Пичугина, 13/14. Андреевой Наташе. Перайшла ў сёмы клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Газеты „Правда", 6. Воронова Ольга. 15 год.

* * *

СССР, 346903, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Чаадаева 69. Крутилина Елена.

* * *

БССР, 220029, г. Мінск, вул. Кісялёва, 11, кв. 44. Клейн Марына. Перайшла ў чацверты клас.

* * *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, проспект 40-летия Победы 73/2, кв. 58. Игноян Ирина. Скончыла 8 клас.

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ЗАГАДКІ АБ СВОЙСКІХ ЖЫВЁЛАХ І ПТУШКАХ

1. Пасярод двара стаіць гара, спераду вілы, ззаду мятла.
2. Чатыры татыркі, дзве тапатыркі, сёмы вярцель.
3. Сшыта, злаплена і рубца не знаць.
4. На хляве два дубкі.
5. Семсот свішча, чатыры плешча, два слухае, два нюхае, два паглядае.
6. Лезу, лезу па жалезу на мясную гару.
7. Што гэта за звер, што мае шэсць ног, дзве галавы, адзін хвост?
8. Ідуць чатыры дзяды назад барадамі.
9. Хто не хворы, а ўсё стогне?
10. Мяшчане запішчалі — горад зваліўся.
11. Каля бочкі качаюцца клубочкі.
12. Бочка стогне, а баяры мёд п'юць.

Адгадкі

1-2. Карова. 3. Пярэстая карова. 4. Рогі ў каровы. 5. Конь. 6. Чалавек садзіцца на каня. 7. Чалавек на кані. 8. Конскія капыты. 9. Свіння. 10-12. Свіння і парасяты.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Сустракае Янка Міколку.
— Што з табою, чаго такі сумны? — пытаецца Янка.
— Ой, ведаеш, прапаў ад учора наш сабака, — адказвае Міколка.
— Дык дай аб'яву ў газету, — раіць Янка.
— Што з таго? — пярэчыць Янка. — Наш сабака чытаць не ўмее.

* * *

— Тата, ці можна з табой пагаварыць у тры вочы? — пытаецца Максімка.
— Чаму ў тры? — дзівіцца тата.
— Адно мусіш закрыць, каб не глядзеў у мой сшытак.

* * *

— Мама, што ты нашаму новаму сабаку пра мяне нагаварыла?
— Чаму?
— Мусіць, ты яму нешта кепскага нагаварыла, што ён на мяне так злосна брахаў.

* * *

— Ці ты не ведаеш, Пеця, чые гэта там карова з цялятамі на нашым лузе ходзяць?
— Чыя карова — не ведаю, а чыё цяля — ведаю!
— Чыё?
— Той каровы.

* * *

— Віця, навошта ў цябе вушы?
— Каб добра бачыў!
— Што ты гаворыш?
— Так. Каб у мяне не было вушэй, шапка ападала б мне на вочы...

* * *

— Скажы, Пецэ, які верш трэба было на сёння вывучыць?
— Верш „Па дарозе ў школу".
— Добра. А калі ты яго вывучыў?
— Па дарозе ў школу.

* * *

Настаўнік тлумачыць вучням перад экскурсіяй, як трэба размяшчацца ў аўтобусе.
— Заўтра раніцай будзе падстаўлены для вас аўтобус з прычэпам. Вучні па дзённіку ад літары А да М займаюць месцы ў аўтобусе, а рэшта вучняў — у прычэпе. Аўтобус ад'едзе дакладна а восьмай. Ёсць пытанні?
— А калі ад'едзе прычэп? — пытаецца малы Коля.

* * *

— Абяцаю з заўтрашняга дня выконваць усе дамашнія заданні, — кажа вучань настаўніку.
— Гэта я ўжо чуў ад цябе шмат разоў.
— Але цяпер я даю цвёрдае слова. Мой дзядуля пайшоў на пенсію!

* * *

— Аня, я бачу ў тваім пакоі павуцінне, — злуецца мама. — Думаю, што ты не будзеш шукаць вінаватых!
— Вядома, мама. Павук не вінаваты, што ўмее плесці такое доўгае і прыгожае павуцінне.

* * *

У лекара:
— Дык што, значыць, вы спалі пры адчыненым акне?
— Так, пане доктар.
— І як вашыя болі — зніклі?
— Болі не, але гадзіннік.

* * *

У школе:
— Ці ёсць да мяне пытанні? — пытаецца настаўніца.
Пецэ ўзнімае руку:
— Ці хутка будзе званок?

* * *

— Коля, што твае сябры зрабілі, калі ты ўпаў у ваду?
— Кінулі за мною мыла.

* * *

Настаўнік:
— Юрка, дзе ты вучыш урокі, дома?
— Так.
— А як доўга? — пытаецца настаўнік.
— Пакуль тата не засне, — адказвае Юрка.

(Працяг са стар. 9)

## НУ І НЯХАЙ!..

ён. — І веласіпед сам пакоціцца. Ну яшчэ, яшчэ!..

Ад хвалявання ў Тані застукала сэрца: „Уцячы?.. Падысці?.."

Але ў малой нічога не атрымлівалася. Тады Алік зняў дзяўчынку з сядзення, паставіў на дарогу, сеў сам на яе месца і паехаў. Такі вялікі — і на маленькім трохколавым...

— А, Таня! — гукнуў ён. — А я ў бабулі гасцяваў. Сястрычку прывёз. Павучы яе катацца!

„У Аліка ёсць сястрычка?! І ён такі з ёю пяшчотны! — здзівілася Таня. — Але яна ніколечкі на яго не падобная"...

— Як цябе завуць? — спытала Таня ў малой.
— Любачка.
— Колькі ж табе гадоў, Любачка-галубачка?

Малая паказала чатыры растапыраныя пальчыкі на руцэ, а пяты, вялікі, прытуліла да далонькі.

— Паглядзі яе, — сказаў Алік. — А я на хвілінку да Сонькі збегаю. Можаш сама пакатацца.

Заканчэнне ў наст. нумары.

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-




Малюнкі адрозніваюцца дзесяццю дробязямі. Знайдзі адрозненні.



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-95 Białystok ul. Wesołowskiego 1

**СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ**

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 16 жніўня а 18-й гадзіне.

## БЕЛАРУСКАЯ ТАНЦАВАЛЬНАЯ

**Танцавалі мы гапак, танцавалі рускую,**
**Паглядзіце зараз як скачам беларускую.**

**Прыпеў:**

**Туп, туп, чаравік, не лянiся;**
**Туды-сюды, чаравік, павярніся.**

**Дзяўчынка Надзейка**
**Ў круг ідзі хуценька,**
**Патанцуй-ка на памосце,**
**Будуць рады нашы госці.**

**Прыпеў.**

**На Палессі стук ды звон,**
**Гэта грае наш Лявон,**
**З Юрачкай да нас ідзе,**
**Мікітку з сабой вядзе.**

**Прыпеў.**

**Усе сабраліся, ну давайце**
**Дружна танцы пачынайце,**
**Трэба ўсім на свеце знаць,**
**Як мы можам танцаваць.**

**Прыпеў.**



# НІЎКА



### ЗМЯКЧАЮЧАЯ АКАЛІЧНАСЦЬ

Суддзя пытае ў падсуднага:

— Навошта вы пабілі гэтага чалавека пасля таго, як укралі ў яго кашалёк?

— Бо ў тым кашальку не аказалася ніводнага граша, — адказвае падсудны.

### ЦЯРПЛІВЫ

— Голай авечкі не астрыжэш.

— Пачакаю, пакуль абрасце.

### ПАСПРАБУЙ

— Кінь за сабою — знойдзеш перад сабою.

— Ты кінь, а я пагляджу.

### СПАРТЫЎНЫ БЕГ

Сустрэліся нейк дзед Мікіта з дзедам Мітрафанам. Разам працавалі, разам і на пенсію пайшлі. Селі на лавачку, размаўляюць. Аж бачаць: бяжыць нейкі дзядзька.

— Во глядзі, Мікіта, таксама чалавек немалады, а спартыўным бегам займаецца, — звярнуўся да Мікіты Мітрафан.

— Ды якім там спартыўным бегам? Гэта Сцепанідзін муж дадому бяжыць самагонны апарат хаваць, а то, кажуць, міліцыя ў вёсцы.

### ЁН І ЯНА

— Шчыра кажучы, мне вельмі хочацца з табою пасварыцца...

— Добра, але для гэтага нам неабходна спачатку памірыцца.



**Перамог у спрэчцы: пераяжыў тых, з кім спрачаўся.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Іван, ты не змог бы пазычыць мне трыста чырвонцаў?

— І навошта ж табе такія грошы?

— Ды хачу раз і назаўсёды разлічыцца з даўгамі.

*

Англічане гуляюць у гольф. Адзін доўга прыцэльваецца і ніяк не можа ўдарыць.

— Я сёння няўпэўнены ў сабе, — быццам апраўдваючыся, гаворыць ён. — Баюся, што не траплю, — там жа стаіць мая жонка.

— Так, — згаджаецца другі, — з такой адлегласці цяжка трапіць.

*

Ідуць здымкі фільма з жыцця старажытнага Рыма. У час адной са сцэн рэжысёр прыкмячае ў акцёра на руцэ гадзіннік.

— Неадкладна зніміце свой гадзіннік! — крычыць ён яму ў мегафон.

— Нічога страшнага, — адказвае акцёр. — У мяне цыферблат з рымскімі лічбамі.

### КАТОВА СЦІПЛАСЦЬ

— Я малака прасіць не стану, — Кот мяўкаў, ліжучы смятану.

**П. Перац**

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ШЛЯХ ДА СЛАВЫ

З вялікім поспехам у гор. Даўску прайшлі выступленні ілюзіяніста Мустадовіча. Ён літаральна пакарыў гледачоў маніпуляцыямі рук. „А дык пачынаў у нас звычайным прадаўцом", — уздыхаў загадчык магазіна І. Гуртовіч, які сядзеў у першым радзе.

### БАНТОН

Уключаючы транзістар дома, на вуліцы, у грамадскім транспарце, на пляжы, старайцеся дабіцца максімальнага гуку. Хай усе ведаюць, якую цудоўную прадукцыю выпускаюць нашы радыёзаводы.



— Гаварыла, не ці: ужо не памятаеш, што ў нашай машыне матор ззаду...

# Курʼёзы

### АКАДЭМІЯ ХЛУСНІ

У Гасконіі, гістарычнай вобласці Францыі, ёсць невялічкае, але досыць вядомае сяло Манкраба. Вядомае ж яно тым, што тут з 1748 года існуе гэтак званая „Акадэмія хлусні". Дэвіз „акадэмікаў": „Хлусіць так, каб бэлькі гнуліся".

Штогод у першую нядзелю жніўня там праходзіць чарговы конкурс найвынаходлівых ілгуноў з розных краін. Перад пачаткам конкурсу яны прысягаюць: „Гаварыць толькі хлусню, чыстую хлусню, нічога апрача хлусні!" Напрыклад, што ў Манкраба казлы — сапраўдныя арыстакраты, і што адзін асабліва інтэлігентны казёл зрабіў тое, што не ўдалося зрабіць вучоным заолагам і мікрабіёлагам — вынайшоў штучнае апладненне...

### УЛІЧВАЮЧЫ ПАТРЭБЫ

Каб прывабіць кліентаў, кіраўніцтва банка „Каламбія трэст" у амерыканскім штаце Пенсільванія звярнулася да новага, хоць і не такога ўжо і нечаканага, як на тамашнія звычкі, спосабу: віцэ-прэзідэнт банка Чарльз Бішоп заявіў, што найактыўнейшым кліентам будуць бясплатна даваць вінтоўкі і пісталеты. Для гэтага, напрыклад, каб атрымаць у падарунку аўтаматычную вінтоўку, трэба пакласці ў банк 1310 долараў тэрмінам на 5 год.




**Чым менш у чалавека думак, тым больш у яго аднадумцаў.**